# Самапомач

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 8 (61).
Год VI.
Вільня. 10 Чэрвеня 1937 г.

РЭДАКЦЫЯ:
Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.

АДМІНІСТРАЦЫЯ
Вільня, Завальная № 1.


# На Дзень Коопэрацыі.

Польскія коопэратары абвесьцілі сёлета **Дзень Коопэрацыі** на нядзелю 13 чэрвеня. Коопэратары іншых народаў выбіраюць на гэта іншы час. Але справа ня ў выбары дня, а ў тым, **нашто гэты дзень выбіраецца і як яго праводзіць.**

Дзень коопэрацыі выбіраецца і сьвяткуецца па тое, каб прыпомніць сабе чым коопэрацыя ёсьць, куды яна мусіць кіравацца і чаго павінна высьцерагацца. Народы, якія маюць у сябе коопэрацыю ўжо разьвітую, падлічаюць у гэты дзень свае здабыткі і ставяць пляны на будучыню,—на год, два, пяць, дзесяць. — Што гэты дзень прыпамінае нам, Беларусам у граніцах Польскае Дзяржавы?

Наўперад прыпамінае ён нам, што мы свае коопэрацыі сягоньня тут ня маем. А тыя нямногія коопэратывы, што ў лепшыя часы на нашых землях паўсталі, сягоньня або сусім ня існуюць, або змушаны былі паддацца кіраўніцтву коопэратыўных саюзаў польскіх. Што ў гэтых варунках коопэрацыя не магла і ня можа даць нам таго, да чаго яна паклікана, гэта ясна кожнаму. Украінцы, Немцы, Жыды, Расейцы ў Польшчы маюць свае собскія саюзы коопэратываў. Ня маюць-жа такіх саюзаў толькі Беларусы ды Літоўцы. Ненармальнасьць такога стану надта выразная. Прызнаюць яе нават лепшыя прадстаўнікі коопэрацыі польскай. Але, „сярод найлепшых прыяцеляў ваўкі цяля зьелі“. Так і з намі. Прыяцеляў „на чацьвёра вачэй“ поўна, а ніхто з іх ня то што помачы ніякай даць ня хоча— коопэрацыя яе не патрабуе!,— але ў абарону перад сумыснымі перашкодамі слоўца не закіне. Нігдзе і ніколі. А тымчасам афіцыяльныя саюзы, бяручы клустыя складкі з беларускіх коопэратываў, хваляцца, што прадстаўляюць іхнюю волю.

На колькі гэтыя саюзы загубілі пачуцьцё меры, паказвае сёлетняя іхняя супольная адозва на Дзень Коопэрацыі, у каторай і беларусаў(!) заклікаюць яны „Do szeregów świadomych twórców przyszłości ludu i narodu polskiego!..“ Большага нятакту (калі не назваць гэта словам больш адпаведным) трудна сабе прадставіць. Тэорыя „падножнага корму“ ў поўным цьвеце. Бо й як-жа? Беларус, калі захоча працаваць у Польшчы ў коопэрацыі— усё роўна на якім становішчы — мае будаваць „przyszłość“ народу чужога? Ці не за шмат ахвяры? Хто-ж тады мае хлапаціцца аб будучыні народу свайго собскага, беларускага? — Ня мелі мы ніколі ахвоты верыць у добрыя адносна беларусаў намеры польскіх коопэратыўных саюзаў, але сягоньня, пасьля ўспомненай адозвы, зразумее нас хіба кожны.

Дык які-ж з гэтага ўсяго выхад?

Коопэрацыя на нашых землях, хоць і складаецца з сяброў беларусаў, то аднак аб будучыні свайго народу нічога ня думае, бо на кіраўнічых мясцох сядзяць людзі чужыя. Сваім-жа людзям, хоць іх і шмат, не хапае нацыянальна-грамадзкай сьведамасьці і таму іхняга голасу ніхто ні слухае, ні тымбольш — уважае.

Выснавак згэтуль такі: коопэрацыя — добрая рэч, але карыстаць з яе наш народ зможа толькі тады, калі ўсьведаміцца — нацыянальна і культурна. Інакш — мы будзем вечна толькі сеяць, а зьбіраць будзе хто іншы, як гэта і паказана ў названай сёлетняй адозве злучаных польскіх коопэратыўных саюзаў і дзеячоў. Таму ў Дзень Коопэрацыі трэба стала і кругом гаварыць **усьведамляймася!** Чытайма беларускія кніжкі і часапісы агулам, а тымбольш часапісы гаспадарскія, бо там толькі знойдзем праўду аб сваім палажэньні. Там, толькі там знойдземі спосаб, як праз коопэрацыю сапраўды працаваць для дабра свайго народу **беларускага.**

*КООПЭРАЦЫЯ для беларусаў датуль будзе чужой і нават шкоднай, пакуль прынамся большасьць сяброў у мясцовых коопэратывах ня станеца сьведама-беларускай.*

## Умовы і тэстаманты.

Апублікаваны новы закон аб умовах і тэстамэнтах, які тым розьніцца ад дагэтуляшняга, што для ўмоваў непакіненых спэцыяльна натарыюсам, устанаўляе гэтак званыя *кнігі ўмоваў* (księgi umów) у гмінах. У гэтых кнігах могуць запісываць акты і ўмовы ўсе жыхары гміны, хоць-бы яны датычылі асобаў, якія ў дадзенай гміне стала і ня жывуць. Ня можна толькі ў гміннуюкнігу ўмоваў упісваць такія ўмовы, якія выразна вымагаюць пацьверджаньня натарыяльнага, або калі вартасьць прадмету ўмовы перавыжшае 3.000 (тры тысячы) залатовак. Закон пастанаўляе, што ў кнігу ўмоваў павінны быць упісаны кожная ўмова ці акт. Упісаныя ўмовы павінны быць прачытаны старонам (тым, што ўмаўляюцца), падпісаны і пацьверджаны подпісам войта ці ягонага заступніка і пісара. Калі адна з старон сьпісваючых умову няграматная, або так ня можа пісаць, дык за яе можа падпісаць асоба іншая; але ў гэтым выпадку патрэбны подпісы йшчэ дзьвюх асобаў як сьведкаў.

У кнізе ўмоваў можна так-жа запісваць і тэстамэнты, калі прадметам яго ёсьць гаспадарка, якой абшар не перавыжшае 15 гэктараў, а ў іншых выпадках, калі вартасьць маемасьці не перавыжшае 3.000 (трох тысяч) злотаў. Асоба, што запісвае тэстамант (тэстатар), павінна асабіста заявіць сваю волю ў прысутнасьці войта ці ягонага заступніка і гміннага пісара (сэкрэтара) а так жа найменш двух сьведкаў. Гэткая заява запісваецца ў кнігу ўмоваў, чытаецца прысутным і падпісваецца: самым тэстатарам, сьведкамі, войтам ці ягоным заступнікам і гмінным сэкрэтаром. Калі тэстатар няграматны ці ня можа пісаць, дык можа за яго расьпісацца іншая асоба. Гэтак сьпісаныя тэстамэнты можна зьмяніць тэстамэнтам пазьнейшым, запісаным у гміннай кнізе ўмоваў або ў натарыюса. Тэстамэнт ня сьпісаны паводле паказаных правілаў ня мае моцы тэстамэнту сьпісанага ў гміннай кнізе ўмоваў.

На жаданьне ўмаўляючыхся старон гміна выдае ім выпіску ўмовы, падпісаную войтам ці ягоным заступнікам і сэкрэтаром а так-жа пацьверджаную пячаткай гміны.

Сьпісаныя ў кнізе ўмоваў умовы аплачваюцца гэрбавымі (стэмплёзымі) маркамі паводле агульнай таксы аб гэрбавых аплатах.

## Закон аб шкодах у полі.

У апошнім нумары „Самапомачы" мы падалі зьмест новага закону аб шкодах у лесе. Сягоньня падаём кароткі зьмест закону аб шкодах у полі і аб карах за гэткія шкоды.

Хто праз чужую сенажаць або пасьбішча перагражджае, або пераганяе жывёлу (нават хатнюю птушку), той можа быць аштрафаваны да 25 зл. Хто перагражджае праз чужое поле заараное ці засеенае, праз чужую зарыбленую непраточную ваду, або праз такое поле і воды пераганяе жывёлу ці птушку, той можа быць аштрафаваны да 100 зл. Да 100 зл. можа быць аштрафаваны той, хто ня ўступіць з чужога поля, сенажаці, пасьбішча, грэблі паміма наказу ўласьніка гэтае маемасьці. Таксама да 100 зл. можа быць аштрафаваны той, хто бярэ з чужога поля пясок, гліну, вапну, жвір і торф, капае на чужым полі ямы і равы, выкідае на чужое поле каменьне, сьмяцьцё, падліну або ўсякія бруды, хто на чужым полі пасе жывёлу ці птушку або калечыць чужыя дрэвы і кусты. Калі хто жывёлу і птушак пасе на чужым полі засееным, дык можа быць пакараны арыштам да 1 тыдня і штрафам да 250 зл. Хто топча чужыя засевы збожжа, травы, ці наагул чаго пасеенага ці засаджанага, той можа быць аштрафаваны да 20 зл.

Хто зрывае ці састрыгае чужое калосьсе, зьбірае такое калосьсе на аржышчы, выкошывае чужую траву (ня шмат!), або забярэ з чужога поля хоць-бы крыху ядомых земляплодаў, той можа быць аштрафаваны да 50 зл.

Акрамя пералічаных караў, плаціць шкоднік пашкадаванаму падвойную вартасьць самай шкоды — ад 1 да 20 зл.

## U krainie kooperacyi

*Na Dzień Kooperacyi dobra budzie paznajomicca z žyćciom ziemlarobskaj krainy, dzie volnaja kooperacyja pranikła ŭsie pačynańni čałavieka. Takoj krainaj jość Danija — nievialikaje karaleŭstva, pałožanaje nad moram na zachad ad Niamieččyny, u susiedztvie z Anhlijaj. — Red.*

Cieraz dvaccać hadoŭ pašla zasnavańnia pieršaj spažyvieckaj kooperatyvy ŭ Rochdale (čytaj — *Ročdeil*) u Anhlii, dumka kooperatyŭnaja adhuknułasia vialikim recham u susiedniaj Danii. U 1866 ha byŭ zasnavany „Rabotnicki Sajuz" u Thistedu na vostravie Jutland i hetym zrobleny pačatak kooperacyi, choć kolektyŭnuju (ahulnuju) paruku spatykajem užo ŭ pažyčkovych kasach danskich z 1850 hodu.

Až da pačatku XX stahodździa kooperacyja danskaja raźvivałasia hałoŭnym čynam na vioscy i tamu jana da siahońnia maje charaktar viaskovy. Što vioska danskaja tak achvotna pryharnułasia da kooperacyi, zasłužylisia ab heta słaŭnyja siahońnia na ŭvieś śviet danskija narodnyja universytety pavodle systemy Grundtviga, a tak-ža spraviadlivy padzieł ziamli. Usio heta raźviło i zamacavała siarod danskich sialan paniaćcie solidarnaści (družnaści): usie za adnaho i adzin za ŭsich.

Z čaho raźviłasia danskaja kooperacyja?

Z biady! U inšych varunkach heta biada moža pchnuła-b ludziej ŭ propaść. Rodnaja aśvieta adnak uratavała danskich sialan ad hetaha i padniałaich tak vysaka, što siahońnia ad ich vučycca nia tolki ŭsia Eŭropa, ale i Ameryka.

Jak usiudy, tak i ŭ Danii padstavaj sialanskaha dabrabytu ŭ tyja časy była haspadarka polnaja, pierad usim zbažžavaja: zbožža mieła zbyt u susiednija pramysłovyja krainy. I tak usio pamału niejak išło. Ale voś pryjšła hetak zvanaja „pramysłovaja revalucyja," a lepš kažučy — vydumali ludzi paravuju mašynu. Karabli z hetymi mašynami pačali vielmi chutka pływać pamiž Eŭropaj i Amerykaj, pryvoziačy z Ameryki tannaje zbožža i zasypajučy im usie rynki ŭ Eŭropie. Cana miascovaha zbožža pašla hetaha vielmi abnižyłasia i haspadarka nie apłačvałasia. Nastali viedamyja haspadarskija kryzysy z 1870 i 1886 h.

Što rabić?

I tut voś pryjšła ŭ pomač danskim sialanam ichniaja rodnaja aśvieta, jakaja vučyła ich, što nichto i nikomu darma nie pamahaje, dy što najlepšaj pomačču jość samapomač. Nie apłačvałasia haspadarka polnaja, dyk danskija sialanie pastanavili pierakinucca da haspadarki hadaŭlanaj: hadoŭli małočnaj skaciny i vyrabu masła. Hetak naradziłasia ŭ Danii kooperacyja małačarskaja, jakaja siahońnia abyjmaje 90% usich ziemlarobskich haspadarak. Inakš kažučy, na kožnyja 10 haspadaroŭ, 9 naležać da małačarskaj kooperatyvy i tolki adna da hetaj kooperatyvy nie naleža.

Za prykładam małačarstva, pa kooperatyŭnamu pačali arhanizavacca ŭsie inšyja haliny haspadarki i siahońnia danski sielanin usiaki tavar kuplaje ŭ kooperatyvie, hrošy pazyčaje ŭ kooperatyvie, nasieńnie kuplaje ŭ kooperatyvie, elektryčnać biare z elektroŭni kooperatyŭnaj i ŭsie svaje zapasy składaje takža ŭ kooperatyvu.

Akramia kooperatyvaŭ małačarskich, na vialikuju ŭvahu zasłuhoŭvujuć u Danii kooperatyŭnyja śvinabojni (bekoniarni) i žbiralni jajec.

Śvinahadoŭla heta naturalny naśledak raźvitaha małačarstva, jakoje pakidaje vialikaje mnostva posnaha małaka, jakoje heta vielmi cennaha kormu dla śviniej. Kali za małačarstva bracca zmusiła dancaŭ

# Што, як і калі рабіць?

## Запаленьне вым'я кароў.

Кожнаму ведама, што цана нашага масла на заграгнічных рынках незраўнана ніжэйшая, чымся цана масла напр. данскага, а нават латыскага, літоўскага ці эстонскага. А ніжэйшая яна таму, што сам тавар наш значна горшы, нятрывалкі: у сырым стане, да стала наша масла можна ўжываць найвышэй да 3 дзён, ды й то не заўсяды, тады як масла заграгнічнае можа прытрываць у добрай якасьці цэлыя тыдні і нават месяцы.

Прычын на гэта ёсьць шмат. Нашы людзі не сьцерагуць перад усім чыстаты як пры даеньні, так і вырабе масла. У хляве — заўсяды „як у хляве“ брудна, каровы ніколі нячышчаныя, скачаныя ў гной, усюды поўна мух і ўсякай брыды. У малацэ ад гэтага поўна шкодных бактэрый, ад каторых масла шыбка псуецца. Яшчэ горш стаіць справа з сырамі вырабленымі гэткім спосабам.

Апошнім часам людзі зьвярнулі ўвагу на г. зв. запаленьне вым'я. Хвароба гэта была знаная даўно, але дагэтуль яе недацэньвалі, бо карова выдавалася здаровай, мела добры апэтыт, давала малако. Калі-ж прыглядзіліся бліжэй, дык пераканаліся, што пры гэткім запаленьні вым'я дойнасьць каровы абніжаецца на 10—30 прац., само-ж малако мае ў сабе шмат шкодных бактэрыяў, нават тады, калі захоўвалася прыкладная чысьціня. Прычыну запаленьня вым'я людзі знайшлі ў бактэрыях, а згэтуль дадумаліся, што сама хвароба ёсьць заразнай, можа перанасіцца з хворае жывёлы на здаровую ды што гэтыя шкодныя бактэрыі знаходзяцца ў малацэ хворай жывёлы... Склад самага малака ад такой каровы таксама іншы. Пераканацца можна аб гэтым цэдзячы малако праз густое сітка: малако кароў здаровых праходзе сіткам зусім свабодна, тады як пасьля малака ад каровы з вымем хворым пакідае на сітку розныя астаткі, клакі і нават цэлыя грудкі.

Запаленьне вым'я кароў ёсьць хваробай у нас вельмі частай, мае яго блізу палова (30—50 прац.) нашых кароў. Пры гэтым такое запаленьне можа абхопліваць як цэлае вым'я, так і частку ягоную, напр. палову ці чверць. Дзеля таго, што ў гаспадарцы ўсё малако зьліваецца разам, дык ад крошкі хворага малака псуецца і малако добрае. Запаленьне вым'я рэдка выступае адразу ў форме вострай, звычайна пачынаецца яно ў форме лёгкай і таму чалавек або зусім яго не заўважвае, або і заўважыўшы — не дацэньвае. А шкода з гэтага вялікая: траціць і на колькасьці ўдою і на якасьці.

Пры неарганізаванасьці нашага сяла, трудна вымагаць, каб хто клікаў адразу да хворай жывёлы лекара, калі ня можа яго паклікаць нават да хворага чалавека. Але бясчынна чакаць так-жа ня можна, бо хвароба пакіненая без дагляду пашыраецца на жывёлу дальшую, асабліва калі адна і тая самая асоба доіць каровы як здаровыя так і хворыя. Таму наўперад трэба захаваць чысьціню ў хлявох. А далей, зрабіць апісаную вышэй пробу доенага малака на густым сітку. Калі ў малацэ знайдуцца клакі, дык хай гэту самую пробу зробяць і суседзі. А калі гэтак будзе вылядаць справа і ў іх, дык тады супольна, праз солтыса і гміну, трэба дамагацца, каб прыехаў з стараства паветавы лекар — вэтэрынар абгледзіць усе каровы ў вёсцы ці аколіцы і парадзіць, як лячыць хваробу. Гэта заўсяды аплаціцца. „Хатніх спосабаў“ лячэньня тут мала ды яны мсгуць быць найдаражэйшымі, бо — нічога не памогуць.

*Др. Ю. З.*

---

Ameryka, z svaim tannym zbožžam. dyk u raźvićci švinahadoŭli i švinabojstva mimavoli pamahła dancam Prusija. Prad tym dancy vyvazili šviniej u niedaloki niamiecki partovy horad Hamburg, dzie hetych šviniej kaloli (bili), salili i vyvazili ŭ Anhliju jak tavar niamiecki. Niejki čas hetki handal išoŭ. Ale paśla niemcy pačali za nadta nadužyvać svajo „pasrednickaje“ prava, nia kažučy ŭžo ničoha ab roznych dakukach na hranicy.

A kali ŭ 1887 h. dancy zasnavali pieršuju švinabojniu na tych samych padstavach, što i małačarni, dyk prusaki, kab zastrašyć dancaŭ, zusim začynili svaju hranicu prad pryvozam danskich šviniej, a hod spuściŭšy Hamburg zavioŭ u siabie myta (cło): pa 5 mk až kožnaj štuki. Usio heta adnak jašče bolš uzmacavała dancaŭ u pierakanańni, što tolki kooperatyŭny spos»b zbytu švinnoha tavaru moža zabiaśpiečyć apłatnaść haspadarki. Dziela taho z hodu ŭ hod lička kooperatyŭnych švinabojniaŭ vielmi ŭzrastała —Kooperatyvy hetyja vymahajuć v alikaha asnaŭnoha kapitału i tamu patrabujuć šmat siabroŭ: ad 3 da 5 tysiač. Siabra takoj kooperatyvy moža vystupić z jaje tolki pa niekalkich pakazanych u statucie hadoch, a na spłatu ŭziatych na pabudavańnie švinabojni pazyčak biarucca z siabroŭ składki, vyšynia jakich zaleža ad taho, kolki jon dastaviŭ šviniej i jak vysokaja pazyka. Siabry abaviazany dastaŭlać tavar (šviniej) tolki da svajej švinabojni, pryčym dastaŭku tavaru z haspadarki ŭ švinabojniu kooperatyva biare na siabie. Abrachunak robicca pavodle vahi i jakaści tavaru, pry hetym statut aznačaje, jakuju vahu pavinny mieć švini, kab ich pryjmać u švinabojniu. Najlepšyja ceny płaciacca za štuki paŭhadavyja.

Najmałodšaj z pamiž nazvanych formaŭ danskaj sialanskaj kooperacyi jość kooperacyja jajčarskaja — źbirańnie i pradaža jajec. Hety tavar znachodzić štoraz bolšy popyt siarod haradzkoha nasielnictva, z tym adnak varunkam, što tavar budzie čysty i śviežy. Hetki tavar moža dać tolki kooperatyva. Danskaje masła, švinina i jajko — heta pieršaklasny tavar danskaha eksportu. Znaje heta ŭvieś śviet, znaje heta i danski sielanin, jaki da taho viedaje, što ničoha nie patrapiŭ-by zrabić biez kooperacyi. Tamu jon kooperacyju i cenić.

Ahułam kažučy, Danija maje siahońnia hetkija formy kooperacyi:

1. Hipotečnaja i pazyčkova-aščadnickaja.
2. Spažyvieckaja (sajuz spažyvieckich kooperatyvaŭ danskich maje 1.800 siabroŭ—kooperatyvaŭ viaskovych, jakija płaciać u sajuz 100 danskich kron za kožnych 20 siabroŭ).
3. Kooperacyja pradukcyi i vyvazu zavodnaha nasieńnia.
4 Kooperacyja małačarskaja. Kooperatyvy małačarskija rupiacca nia tolki vyrabam i pradažaj małaka, ale taksama starajucca ab hadoŭlu skaciny i naahuł ab haspadarku.
5. Kooperatyŭnyja švinabojni.
6. Hadaŭlanyja kooperatyvy — asobnyja dla skaciny, asobnyja dla koniaŭ, asobnyja dla šviniej.
7. Kantrolna-hadaŭlanyja kooperatyvy starajucca navučyć racyjanalna (pavodle navukovych pakazańniaŭ) hadavać, karmić i vybirać da ŭžytku ŭsiakuju žyviołu.
8. Kooperatyvy supolnaha zakupu i zbytu.
9. Kooperatyŭnaja strachoŭka.
10. Kooperatyŭnyja elektroŭni, piakarni, budoŭli i šmat inšych.

Jak bačym, kooperacyja ŭ Danii abchapiła ŭsie baki žyćcia. I z hetaha dancy vielmi zdavoleny.

*K.*

# Травы на сенажаці.

Сенажаць тады добрая, калі ейнае дзярно густое. Памагае гэтаму адпаведні падбор траваў: высокіх і нізкіх. Пазнаньне свомасьцяў усіх траваў на сенажаці — рэч канешная для кожнага гадаўца.

Агулам кажучы знаем травы кіслыя і травы салодкія. Травы кіслыя маюць вострае, шурпатае лісьце, тройграннае на перарэзе, поўнае ўсярэдзіне, сьцібло без каленак. Гэтым розьняцца яны ад траваў салодкіх (мурожных). Кіслыя травы растуць на сенажацях замочаных, на каторых сподняя вада падходзіць вышэй як 50—60 см. пад паверхню дзярна. І наадварот, калі пракапаньнем равоў ці залажэньнем дрэнажных трубак апусьціць сподную ваду на сенажаці ніжэй, дык кіслыя травы самі прападаюць, а на іх месца вырастаюць салодкія.

Зробім-жа тут кароткі перагляд траваў салодкіх.



*Лісахвост* (Alopecurus pratensis) — мае колас грубшы пасярэдзіне і цянейшы зверху і здолу. Ня можна яго мяшаць з цімафейкай, колас якой аднолькава грубы ад верху да нізу. Цьвіце рана, любіць цень і дастатак вільгаці, зімы не баіцца, ня церпіць пяшчаных грунтоў. Расьце высака.



*Жытніца,* інакш ведамая як мурава ці *райграс* англіцкі (Lolium perenne) з коласу вельмі падобная да пырніку. Прыгодная на пасьбішча, бо добра кусьціцца, а стаптаная хутка адрастае. Расьце год-два, пасьля слабне і нікне. Баіцца марозу і сьнегу, ня любіць пяскоў і торфу.



*Цімафейка звыч.* (Phleum pratense) — з выгляду падобная да лісахвоста, толькі колас роўна грубы здолу да верху, лісты простыя, сінявыя, сьцёблы цьвёрдыя, высока абросшыя лісьцем. На пяскох цімафейка расьце малой, а на лепшых грунтох дасягае 1 мэтра. Н сьнегу ні марозу не баіцца, найлепш разьвіваецца ў 2 і 3 годзе. Найчасьцей сеюць яе ў мешанцы з чырвонай канюшынай: першы год тады гэткую мешанку косяць, а два наступныя — пасуць.



*Мятла-кастрыца лугавая* (Festuca pratensis) належа да вельмі цэнных траваў. Цьвіце позна (але раней цімафейкі), надта сухой зямлі ня любіць, добра адплачвае угнаеньне мінэральнымі гнаямі і тады дае 2—3 пакосы. Найбольшы пакос дае ў 2—3 годзе пасьля севу. Не баіцца ні сьнягоў, ні маразоў і добра маецца ў цяні.



*Мятліца белая* (Agrostis alba) —найвыдатнейшая з пасярод мятліцаў наагул. На глебах сухіх хутка цьвярдзее, а на цяжэйшых, з дастаткам вогкасьці, дае добрую пашу.

*Мятліца лугавая* (Poa pratensis) — нізкая і вельмі частая трава: на сенажацях, пасьбішчах, палёх, у равох, ка-



ля платоў, на пясках і на гліне, на сушы і на мокрых сенажацях. Сьцібло расьце ўверх да 50 см., хутка адрастае, трывалкая (да 10 гадоў). Не баіцца ні сьнягоў, ні маразоў, праз зіму бывае зялёнай.



*Мятліца буйная ці разак* (Dactylis glomerata) называецца так дзеля выгляду сваіх каласкоў. Расьце ў кучках на ўсякіх глебах з выняткам пяску. Буйна лісьціцца і скошаная хутка адрастае, не баіцца сьнегу ні марозоў. Дае добрае сена, але хутка (ужо за цьвету) цьвярдзее.

*Кастрыца чырвоная* (Festuca rubra)—расьце на грунтох бяднейшых ад папярэдняй і дае даволі добрыя ўкосы.

*С. Я—віч.*

## Больш пашы, больш пашы!..

Бязупынна трэба было-б клікаць, каб людзі нашы стала больш і больш стараліся пашы для свае жывёлы, выкарыстоўваючы для гэтага кожную вольную пядзю грунту. Аб гэтым трэба думаць ужо цяпер, каб усей сілай прыступіць да працы зразу пасьля жніва.

Аржышча як такое — гэта ніякая паша. Далёка лепш зробіць той, хто замест пускаць скаціну на аржышча, зараз-жа яго мелка ўзарэ і засее якой-небудзь мешанкай на пашу ці на зялёны гной.

Каб гэткая мешанка добра ўдалася, трэба:

*1. Сеяць скора.* На аржышчы па жыце трэба сеяць найпазьней на другі дзень пасьля пажацьця. Кожны спозьнены дзень гэта страта, бо кожны дзень м-ца ліпня не нагоніш і тыднем м-ца жніўня. Хто скора высее, той сам пераканаецца, як мешанка хораша ўсходзіць і разьвіваецца. У другой палове ліпня высяваць мешанкі ўжо ня варта.

*2. Сеяць густа.* Ня можна ашчаджаць насеньня, якое мусіць быць усходлівым. Найлепш-бы было мець насеньне сваё ўласнае, а калі прыходзіцца купляць, дык канешна трэба мець паруку на пісьме, што купленае насеньне будзе ўсходлівым. Лубіну на гэктар высейваюць каля 250 клг.; гэтулькі-ж трэба высейваць мешанкі вікі з гарохам ці бобікам. Калі толькі можна, дык сеяць сеялкай у радкі.

*3. Высеяць на гэктар да 300 кілеграмаў паташавай солі і 200 кілеграмаў супэртомасыны* — бо гэтыя два гнаі вельмі ўспамагаюць рост мешанак. Гаспадар на гэтым нічога ня страціць, бо ўсееныя гнаі так ці гэтак вернуцца ў глебу назад і ўспамогуць наступную расьліну.

Зразумелая рэч, што пасьляжніўныя мешанкі трэба сеяць па такіх расьлінах, якія хутка сходзяць з поля, а знача пасьля рэпіцы, ячменю, жыта. Высяваць трэба на такіх палёх, якія празначаны пад акопніны ці пад яравое збожжа.

На мешанкі найлепш прыдатны: расьліны матыльковыя. На пясках і наагул бедных лёгкіх глебах найлепш сеяць жоўты лубін. На землях лепшых на зялёны гной сеецца лубін сіні, а на пашу — віка, бобік, пялюшка, польны гарох.

Зжаўшы жыта, трэба снапы зараз-жа пазнасіць у адно месца, а вольнае аржышча мелка ўзараць, пагнаіць, прыбаранаваць і ў той самы дзень, а найпазьней — на другі дзень засеяць.

Ня сеяць матыльковых мешанак на палёх запушчаных пустазельлем, як пырнік і інш., бо гэта ніколі не аплаціцца.

На зялёную пашу можна высеяць, нават у позную пару, на вязкіх грунтох — гарчыцу (па пшаніцы), а на слабшых грунтох грачыху — па аўсе ці жыце. Калі грунт пры гэтым і не ўзбагаціцца на азот, дык прынамся прыбудзе ў ім крыху перагною, а акрамя таго такая ўсеўка вычысьціць поле ад пырніку.

п-ле *„Сіль. Госп.“*

*Хто паслаў на „Самапомач“ грошы, а часапісу ў час не атрымаў, той замест пісаць і аплачваць пісьмо ў рэдакцыю, хай зараз-жа (па 10-тым і 25-тым кожнага месяца) складае на сваей пошце рэклямацыю.*

## Дагляд бульбы.

Бульба ёсьць расьлінай лёгкіх глебаў, гэта знача вымагае цяпла, сьвятла, паветра і праведнасьці, спасярод акопнін найменш вымагае вогкасьці. Дзеля гэтага на лёгкіх грунтох, з натуры сваей цёплых і праведных, даволі толькі панішчыць бараной пустазельле. Калі вызначацца барозны, тады іх трэба абараць; аборываньне трэба паўтарыць, калі трапіцца мокрае лета. Трэці раз аборываецца бульба толькі ў нізкіх мясцох. У сухую пагоду даволі аднаго толькі аборываньня, хоць на сыпкіх, лёгкіх грунтох можна абыйсьціся сусім без аборываньня, пустазельле-ж, якое ня зьнішчылася баранаваньнем, трэба выпалаць рукамі, асабліва пырнік і лапух. Нічога ня можна ўжо рабіць з бульбай, калі яна зацьвіце.

На грунтох цяжэйшых найважнейшай справай ёсьць зрабіць доступ паветру. Дзеля таго бульбу на цяжэйшых грунтох трэба аборываць часам нават яшчэ прад абыходам, асабліва калі пагода задажджыцца і пагражае гніцьцём. На гэткіх грунтох найлепш не садзіць бульбы пад плуг, але ў барозны разараныя паводле значніка. У мокрыя гады на гэткіх грунтох трэба аборываць бульбу 3—4 і больш разоў. Чым часьцей лье дождж, тым часьцей і глыбей (вузей) трэба аборываць.

Бульбу пасаджаную пад значнік „у квадрат“ (каліва ад каліва роўна адлеглае ў бакі і ў даўжыню) аборываюць накрыж або абкопываюць матыкамі. Гэткае абкопываньне вельмі аблягчае капаньне бульбы ўвосені.

Калі паміж бульбаю вельмі разрося пырнік, дык і яго трэба нішчыць разам з аборываньнем: пакуль націва бульбы не перарасло, па кожным аборываньні пускаецца барана ўпоперак барознаў, якая й выцягвае пырнік. Валаваньне гладкім валам уздоўж барознаў патрэбнае толькі на полі зусім чыстым ад пырніку і зараз пасьля пасаджэньня — абціскаецца гэтак зямля каля пасаджаных бульбін. Ня трэба дадаваць, што на полі заросшым пырнікам і пры дажджыстай пагодзе аборываньне (абкопываньне) і баранаваньне бульбы трэба паўтараць як найчасьцей.

## Гаспадарская хроніка.

**Закон аб гадоўлі.** Ад 1 чэрвеня сёл. ўвайшло ў сілу распараджэньне Міністра Земляробства ў справе гадоўлі скаціны, сьвіней і авечак. Распараджэньне гэта устанаўляе склад гэтак званых кваліфікацыйных камісій, якія ад гэтага часу будуць пастанаўляць, каторыя бугаі і кнуры могуць ужывацца як племнікі. Камісіі такія будуць трохасабовыя, а ў іхні склад будуць ухадзіць: прадстаўнік паветавага саюзу самаўраду, дэлегат Земляробскай Палаты і лекар вэтэрынарыі. Уласьнікі племнікаў павінны запісваць іх у паказаным часе ў гмінах, якія штогод абавязаны кваліфікацыйным камісіям прадставіць сьпіс племнікаў, паймення: бугаёў і кнуроў — да 1 сакавіка, паводле стану з 1 лютага і бараноў — да 1 жніўня, паводле стану з 1 ліпня.

**Рэестрацыя малачарняў.** Віленская Земляробская Палата прыпамінае, што закон з 22.IV.36 забавязвае ўсіх кіраўнікоў малачарняў рэестраваць усе малачарні найпазьней цераз 7 дзён ад часу яе ўрухамленьня. Хто гэтага ня зробіць, або хто вядзе малачарню, якую Земл. Палата адмовілася зарэестраваць, той будзе пакараны штрафам да 3.000 зл., або арыштам да 3 ох месяцаў Усе малачарні, якія паўсталі па 6 жніўня 1936 г., рахуюцца як новыя і павінны быць рэестраваны.

**Адчынілі.** Дня 5 чэрвеня сёл. ўрачыста быў адчынены адрэзак вузкай чыгуначнай лініі паміж Кабыльнікам і воз. Нарач. Гэта лінія вельмі кароткая, усяго са 3 кілёмэтры і мае значэньне перад усім турыстычнае.

**Магазын на збожжа** ў Баранавічах мае адкупіць ад Зямельнага Банку мясцовы паветавы соймік, і аддаць у арэнду Баранавіцкай коопэратыве земляробска-гандлёвай. Магазын гэты можа ўмясьціць каля 70 вагонаў збожжа.

**Прымаразак** неспадзяваны ў ночы з 29 на 30 мая сёл. ў цэлым Краю стаўся прычынай вялікіх шкодаў для раньняй ярыны (бульба) і асабліва агародніны ды нават садоў. Марозу было — 1° Ц, а мясцамі нават — 3°Ц.

**Выстаўку сусьветную** адчынілі ў Парыжы 23 мая. Паказаны на гэтай выстаўцы здабычы тэхнікі і наагул культуры апошніх гадоў. Характэрна між іншым, што ў будаўніцтве на выстаўцы пераважае дрэва, тады як да нядаўна панаваў усюды жэльбэтон.

# Што чуваць на сьвеце

## Польшч проціў... Абісыніі.

На паседжаньні Рады Лігі Народаў 25 мая сёл. прадстаўнік Польшчы Камарніцкі паставіў прапанову выключыць Абісынію з ліку поўнапраўных сяброў Лігі Народаў. Гэткім становішчам Польшчы вельмі ўсьцешылася Італія й Нямеччына. Самі палякі аднак лішняй радасьці ня выказуюць, а некаторыя дык і проста саромяцца. Супроць польскай прапановы аднак выступілі іншыя сябры Рады і прапанова адпала.

## Новы ўрад у Англіі.

Англіцкі ўрад пад старшынствам Ст. Больдюін'а, як аб гэтым было даўна наперад ведама, падаўся ў адстаўку хутка па каранацыі караля. Новы ўрад сарганізаваў Н. Чэмбэрлен Аб новым старшыні англіцкага ўраду кажуць, што хоць ён і належа да тэй самай што і „стары“ Больдюін партыі консэрватыстаў, то аднак па натуры сваей ён больш склонны цікавіцца тым, што дзеіцца ўвонках Англіі і больш рашучы. Таму спадзяюцца, што ён вельмі заважыць на эўропэйскай палітыцы, а ня выключана, што будзе шукаць вузейшага супрацоўніцтва і з заморскай Амэрыкай.

Больдюін адыходзячы падчыркнуў патрэбу ўтрыманьня дэмакратычнага ладу, як адзіна справядлівага... Сказаў пры гэтым: „Будзеце сьцерагчы дэмакрацыю на ўсіх землях гэтае дзяржавы... прад ворагам вонкавым і нутраным. Старая навука аб боскіх правох каралёў загінула і ня маем намеру стаўляць на ейным месцы навуку аб боскім праве дзяржавы“...

## У Чэхаславаччыне.

*Зьезд сялянскай моладзі.* 22 і 23 мая ў Празе адбываўся юбілейны зьезд чэхаславацкай сялянскай моладзі. Зьехалася 100 тысяч моладзі, у гэтым 2.000 конных і 1.000 цыклістаў (на ровэрах). Дэфіляда (паход) гэтага зьезду прад саюзнымі і дзяржаўнымі ўладамі трывала 4 гадзіны. Прыглядаліся да гэтага паходу 300 тысяч людзей.

*Сьмерць К. Крамаржа.* У Празе, сталіцы чэхаславацкай рэспублікі, памёр заслужаны чэскі дзеяч, старшыня 1-га ўраду адроджанай Чэхаславаччыны, Др. Кароль Крамарж. Паховіны ягоныя адбыліся 29 мая на пражскіх могілках „на Ольшанах“.

Нябожчык хоць стаяў на чале аднэй толькі народна-дэмакратычнай, сягоньня даволі слабай, палітычнай партыі, то аднак працай сваей ён заслужыў пашану ўсяго народу. Самыя похараны Д-ра К. Крамаржа сьведчылі аб гэтым выразна: у жалобным паходзе прыймалі ўдзел каля ста тысяч людзей.

## Нямецкая Партыя Свабоды.

Нямецкая Партыя Свабоды арганізавалася тайна і дала аб сабе знаць асобнай адозвай масава пашыранай адразу па ўсей Нямеччыне тры месяцы таму назад. Анагдай гэта самая партыя выдала ўжо дзьве адозвы, у каторых дэлей во-

стра выступае процiў усякай — камунiстычнай i фашыстаўскай — дыктатуры. А ўрад Гiтлера тымчасам анi думае з нiкiм дзялiцца здабытай уладай. На дапамiнаньне каталiкоў аб праве касьцёла наглядаць над узгадаваньнем моладзi, адказаў, што гэта права належа непадзельна да ўраду; а мiнiстр асьветы, у прысутнасьцi пратэстанцкага бiскупа заявiў, што сьмешнай ёсьць рэчай будаваць хрысьцiянства на веры ў божства Хрыстова. — Судовыя працэсы процi духоўнiкаў, рэвiзыi ў... манастырох, зачыняньне незалежных рэлiгiйных часапiсаў, школ i iншых iнстытуцыяў — на парадку дня.

Нацягненыя адносiны Нямеччыны з Ватыканам апошнiм часам вельмi завастрылiся з прычыны публiчнага выступленьня амэрыканскага кардынала Мундэляйн'а (з паходжаньня — немца). Ягоным выступленьнем гiтлераўская Нямеччына пачулася абражаная i зажадала выясьненьня ад ураду Злуч. Штатаў. Але той нават нiчога не адказаў. Маўчыць таксама i Ватыкан. Афiцыяльна зносiны не сарваны, але нямецкi амбасадар пры Ватыкане выехаў у Бэрлiн. Кажуць, што новым амбасадарам Нямеччыны ў Ватыкане будзе фон Папэн, якога Гiтлер заўсёды пасылае туды, дзе для Нямеччыны вытварыцца цяжкае палажэньне.

## У Гiшпанii.

*Хто пераможа ў Гiшпанii i як доўга йшчэ патрывае вайна?* На гэтае пытаньне карэспандэнта „Kur. Warsz." адказаў б. прэзыдэнт Гiшпанii Алькаль Замора гэтак:

— Я не варажбiт i ня буду бавiцца ў прароцтвы. Ведаю толькi адно, што вайна даўна скончылася-б, калi-б ня ўмешвалася загранiца. Кляймлю нячуваную адказнасьць заграніцы. Абвiнавачваю ўсе вялiкадзяржавы прад судам гiсторыi. На целе скрываўленай Гiшпанii стаўся найбольшы гiстарычны праступак. Гiшпанiя сталася полем бiтвы для чужаземцаў, дасьледчым трусом (кролiкам) дзеля выпрабаваньня iхняга новачаснага ваеннага матарыялу. Ня маю на думцы нiводнага асобнага краю, вiнаваты ўсе. Мы мелi шмат золата. Прад хатняй вайной пакрыцьцё пэсэты*) золатам было адным з найвышэйшых у Эўропе. За гэта наша золата сварацца сягоньня чужынцы. Гэты скарб ужо прапаў, ведаю аб гэтым добра. Наша золата ўжо ня вернецца ў край, бяз увагi на тое, хто пераможа. Ператоплена яно на заграничныя гарматы, бомбы, шрапнэлi, стрэльбы. Я добра знаю ваенную сiлу Гiшпанii... i ведаю, што яна ня можа, нават у нармальных варунках, выпрадукаваць нават дзесятай часьцi таго ваеннага матарыялу, якi там цяпер зужываецца. Але па за золатам ёсьць яшчэ ў нас нешта, за чым прагне заграніца: гэта наш скарб артыстычны. I хто ведае, цi тут якраз небясьпека ня ёсьць найбольш грозная.—

А. Замора быў 1-шым прэзыдэнтам рэспублiканскай Гiшпанii. На гэтым-жа становiшчы застала яго выбарная перамога „Народнага Фронту" ў 1936 г. Для „Фронту" як i для скрайнiх правых асоба Заморы, як цэнтравiка, была нявыгоднай i таму яго выкiнулi на эмiграцыю. Цяпер А. Замора жыве ў Парыжы (Францыя).

*Зьмена ўраду.* Старшыня ўраду рэспублiканскай Гiшпанii Л. Кабаллеро, перамогшы анархiстычнае паўстаньне ў Каталёнii, дамагаўся ад свайго ўраду адумыснага закону дзеля пакараньня вiнаватых i недапушчэньня падобных выступленьняў на будучыню. Калi камунiстычныя мiнiстры гэтаму ўспрацiвiлiся, дык Л. Кабаллеро падаўся ў адстаўку, а новы ўрад, з даручэньня прэзыдэнта Азанii, сарганiзаваў дагэтуляшнi мiнiстр фiнансаў праф. Нэгрiн, умяркаваны соцыялiст. У новым урадзе ёсьць: два камунiсты (мiнiстры асьветы i здароўя), тры соцыялiсты i па адным прадстаўнiку: левых рэспублiканцаў, рэспублiканскай унii, левых каталёнцаў i баскiйскiх нацыяналiстаў.

*„Дойчлянд" — Альмэрыя.* Паводле газэтных вестак, два аэрапляны гiшпанскага рэспублiканскага ўраду 29 мая абкiдалi бомбамi нямецкi ваенны крэйсэр (карабель) „Дойчлянд", якi ўехаў у гiшпанскiя воды. Ад бомбаў гэтых на нямецкiм крэйсэры было 20 асоб забiтых i каля 80 раненых. На гэткi паступак, без правядзеньня шырэйшага выясьненьня, нямецкi ўрад загадаў сваiм ваенным караблём 31 мая абстраляць ваенны гiшпанскi порт Альмэрыя. Абстрэл трываў паўтары гадзiны i падчас яго было выпушчана на порт i горад каля 300 гарматнiх стрэлаў, ад каторых аказалiся 20 асоб забiтых i 150 раненых. Разбураны пры гэтым былi цалком больш 40 вялiкiх будынкаў, пад грузамi каторых знаходзяць усё больш i больш людзкiх ахвяр. Паважна так-жа пашкоджана мясцовая катэдра i касьцёл сьв. Сэбастыяна.—Нямеччына пасьля гэтага заявiла, што свае рэпрэсыйныя меры (помсту) за збамбардаваньне крэйсэра „Дойчлянд" лiча кончанымi. — Гiшпанскiя лётчыкi, што кiдалi бомбы, заявiлi, што яны палiчылi нямецкi крэйсэр „Дойчлянд" за крэйсар паўстанцкi i таму абкiдалi яго бомбамi.

*Генэрал Моля забiўся.* Аэраплян, на якiм генэрал Моля з ад'ютантам, двума афiцэрамi генэральнага штабу i двума лётчыкамi аб'яжджаў паўстанцкiя пазыцыi на баскiйскiм фронце, з невядомых прычын зваліўся, забiваючы на сьмерць усiх пасажыраў. — Ген. Моля быў правай рукой паўстанцкага павадыра ген. Франко, а паходзiў з Баскii, супроць каторай i вёў гiшпанскае войска. Памёр маючы 46 гадоў.

## У Саветах.

*Што сталася з Ягода'м?* Адразу па арыштаваньню б. начальнiка савецкай палiтычнай палiцыi (Г.П.У.) Ягоды, былi чуткi, што суд ягоны будзе ў маi. Мiнуў аднак май, а аб судзе ня чуваць. Затое пайшлi розныя iншыя чуткi. Адны кажуць, што Ягода моцна хворы (спаралiжаваны) i таму ня можа стаць прад судом; iншыя кажуць, што ён ужо зусiм ня жыве; а яшчэ iншыя — што публiчнага суду баiцца сама савецкая ўлада i таму ўжо засудзiла Ягоду адмiнiстрацыйным парадкам, так як засудзiла i i саслала на пасяленьне ў Сiбiр Рыкава i Бухарына. Улада савецкая нiводнай з гэтых вестак анi пацьвярджае анi адкiдае.

*Гамарнiк застрэлiўся.* Аб глыбiнi пераменаў у савецкiм жыцьцi вельмi шмат кажа найнавейшая вестка аб самагубстве начальнiка ПУРККА (Политическое Управление Рабоче-Крестьянской Красной Армии) Гамарнiка, якi дагэтуль непадзельна кiраваў палiтычным узгадаваньнем чырвонай армii. Аб прычынах самагубства тымчасам афiцыяльна нiчога няведама. Дагадваюцца толькi, што ўстанаўленьне 11 мая сёл. ваенных саветаў i камiсараў Гамарнiк палiчыў як недавер да сябе з боку Сталiна i, каб не дачакацца „лiквiдацыi", папярэдзiў яе „самолiквiдацыяй". — Гамарнiк уступiў у камунiстычную партыю ў 1916 г. маючы 22 гады i цэлы час меў поўны давер з боку партыйных уладаў. — Характэрна пры гэтым i тое, што Гамарнiк быў апошнiм i адзiным жыдам на кiраўнiчым месцы ў чырвонай армii.

*„Чыстка" на Беларусi".* Хваля „чыстак" у Саветах дакацiлася ўжо i да Беларусi. Паводле газэтных вестак доўгалетнi старшыня Рады Народных Камiсараў (прэм'ер ураду) БССР Галадзед зьняты ўжо з свайго становiшча, а на яго месца назначаны 2-гi памоцнiк сэкрэтара Камунiстычнай Партыi Беларусi Ваўковiч. Зволънены таксама з працы ў Акадэмii Навук праф. Пiотуховiч.

*Грамадзяне Беларусы! Вучыце сваiх дзетак беларускай граматы! Дамагайцеся сваiх беларускiх школаў!*

*) Пэсэта — гэта гiшпанская грашавая адзiнка, ейная вартасьць — няцэлыя 50 грошаў.

*Przesyłka opłacona ryczałtem.*



# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

— Бел. Нац. Камітэт, на агульным сходзе сяброў 21 мая сёл., даў прэзыдыюму свайму наказ:

„Зорка сьледзячы за разьвіцьцём палітычных падзеяў, высьцерагацца тых сілаў, якія нясуць Беларускаму Народу такую ці іншую няволю і, прытрымоўваючыся дасюлешняй палітыкі Бел. Нац. Камітэту, далей пашыраць беларускую незалежную дэмакратычную ідэолёгію, не адхіляючыся ад добрасуседзкага сужыцьця з іншымі народамі".

Далей Сход выставіў між іншым гэткія найважнейшыя ў сучаснасьці патрэбы Беларусаў у граніцах Польскае Дзяржавы:

1. Правядзеньне зямельнай рэформы на землях заселеных Беларусамі, пры якой былі-б надзелены да поўназямельля малазямельныя і беззямельныя беларускія сяляне;

2. Аблягчэньне падаткаў і самаўрадавых павіннасьцяў;

3. Выасыгнаваньне танных доўгатэрміновых крэдытаў для індывідуальных сялянскіх гаспадарак пры пераходзе іх на хутары;

4. Нацыянальна-беларуская арганізацыя коопэрацыі абслугоўвуючай беларускае насельніцтва;

5. Ажыўленьне самаўрадавай дзейнасьці ініцыятывай знізу, ад мясцовага насельніцтва, бяз ніякага націску ў кіраўніцтве з боку ўладаў дзяржаўнай адміністрацыі;

6. Адчыненьне для беларуската насельніцтва, згодна з абавязуючай канстытуцыяй і іншымі законамі пачаткавага і сярэдняга школьніцтва з навучаньнем у роднай мове, а так-жа наладжаньне зашкольнай асьветы для дарослай моладзі праз беларускія культурна-асьветныя грамадзкія арганізацыі;

7. Спыненьне ў праваслаўным царкоўна-рэлігійным жыцьці тае палітыкі, якая ўтрымлівае ў рэлігійным жыцьці праваслаўных Беларусаў расейшчыну або ўводзіць польшчыну, і правядзеньне беларусізацыі царкоўна-рэлігійнага жыцьця на землях заселеных Беларусамі ў царкоўных пропаведзях і агулам у навучаньні рэлігіі;

8. Увядзеньне ў касьцёл у беларускіх каталіцкіх парахвіях беларускай мовы ў казаньнях і дадаткавых набажэнствах, а так-жа навучаньне рэлігіі беларускіх каталіцкіх дзяцей пабеларуску;

9. Патрэба выбарнага закону ў заканадаўчыя ўстановы, які даў-бы магчымасьць беларускаму насельніцтву мець сваіх прадстаўнікоў у колькасьці адпавядаючай ягонай лічбовай сіле.

(Паводле бюлетэну „Wiadomości Białoruskie" № 5, 1937).

— М. Забэйда — ведамы артыстсьпявак выступаў з канцэртам беларускай песьні ў Беластоку дня 6 чэрвеня, а 8 чэрвеня сьпяваў беларускія песьні праз польскае радіо з Варшавы. Абодва выступленьні былі вельмі ўдачныя. Шкада толькі, што дырэкцыя польскага радія „байца" называць беларускія песьні іхнім собскім беларускім імем і стала называе іх толькі „рэгіянальнымі", гэтым разам палескімі. — Няведама, ці гэтак робіць з уласнага пачыну, ці мае скуль гэткі загад.

— Дэлегацыя Бацькаўскага Камітэту Беларускай Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Юл. Славацкага ў Вільні выехала 7 г. м. ў Варшаву, каб там старацца аб забесьпячэньне лёсу названай гімназіі на будучыню. Аб рэзультатах гэтае паездкі паведамім у наступным нумары.

— Канфіската. 29 мая сёл. Віленскае Гарадзкое Стараства сканфіскавала цэлы наклад прад двума тыднямі выданага беларускага лемантара „Zasieŭki". Ёсьць гэта вельмі цяжкі ўдар для беларусаў, бо, не гаворачы ўжо аб затраце вялікіх коштаў, фактычна пазбаўляе магчымасьці беларускіх дзяцей мэтодычна вучыцца сваей роднай граматы. — Ціж-бы некаму на гэтым залежала?

— Пілігрымка беларуская ў Кальварыю адбылася сёлета 6 г. м. Апрача беларусаў Віленскіх, былі на пілігрымцы і беларусы з бліжэйшых і дальшых ваколіц. Казаньні да пілігрымаў гаварылі на перамену: Кс. Супэріор Я. Гэрмановіч, Кс. А. Станкевіч і уніяцкі сьвяшчэньнік з Дэлятыч В. Аношка.

—Занятки ў Беларускай Філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім. Ю. Славацкага кончацца 16 г. м. і пачынаюцца летнія вакацыі.

— З выдавецтва. Выйшаў з друку новы каталёг (кнігасьпіс) беларускіх кніг кнігарні „Пагоня" (Вільня, Завальная 1). Цэны ўсіх выдавецтваў пададзены ў каталёзе паводле апошняга абніжэньня. Акрамя часьці каталёгавай, пададзены йшчэ перагляд важнейшых беларускіх інстытуцый у Вільні. -- Бачынаў 56.

## У Літоўцаў.

— Зачынілі. Віленская Школьная Кураторыя паведаміла концэсыянэраў Літоўскай Прыватнай Гімназіі ў Сьвянцянах, што гімназія гэта аканчальна зачыняецца з канцом сёлетняга школьнага году. Нічога, як відаць, не памаглі ні стараньні ў мясцовых польскіх школьных уладаў, ні нават сумысная падарож дэлегатаў ад Бацькаўскага Камітэту гэтае гімназіі ў Варшаву.

— 10-ыя ўгодкі сьмерці Др. Басановіча, закладчыка і 1-га нязьменнага старшыні Літоўскага Навуковага Т-ва ў Вільні ўрачыста абходзіла гэта-ж Т-ва на спэцыяльнай публічнай Акадэміі дня 6 чэрвеня сёл.

## У Украінцаў.

— Выстаўка малюнкаў украінскіх мастакоў: Алега Лошнева, Пётры Обаля, Рыгора Смольскага і Іоанны Ныжнык адчынена 23 мая сёл. ў залях Музэю Украінскага Навуковага Т-ва ім. Т. Шэвчэнкі ў Львове.

— Т-ва „Сільський Господар" у Львове ў 1936 г. мела 63 філіі, у каторых было аб'еднана 1.683 земляробскія гурткі. Лік гурткоў у працягу апошніх двух гадоў павялічыўся на 396. У Т-ве сарганізавана 107.296 гаспадароў. Пры Т-ве ёсьць аддзел земляробскай моладзі, у каторым запісаны і працуюць 6.383 хлапцы і 3.298 дзяўчат.

## У Палякоў.

— Сойм склікааны быў на надзвычайны сход 19 м. м. Ад гэтага дня працавалі толькі камісіі. Цэлы Сойм паўторна меўся сабрацца на паседжаньнё 1 чэрвеня.

— Дыплёматычныя адведзіны. Сын румынскага караля Міхал, вяртаючыся ў канцы мая з Лёндыну, заяжджаўся ў Варшаву. А ў першых днях чэрвеня выехаў у Бухарэст (Румынія) прэзыдэнт Польшчы І. Мосьціцкі.

На сьмерць засудзіў Варшаўскі Акружны Суд Ю. Хаскелевіча, які год таму назад, падчас проціжыдоўскіх разрухаў у Мінску-Мазавецкім пад Варшавай, забіў вайсковага Буяка.

## Усячына.

— Мужчына — маткай? У Баўгарыі гэтымі цням. адзін селянін паддаўся опэрацыі. Дахтары мелі вырэзаць вялікі гуз з ягонага бруха. І вырэзалі. А ў гэтым гузе аказаўся, ні больш ні менш, зародак людзкога дзіцяці. Мужчына гэты хутка вернецца дамоў, дзе яго чакае жонка і... пяцёра дзяцей.

— Купрын — ведамы йшчэ прадваенны, а пасьля эміграцкі расейскі пісьменьнік вярнуўся анагдай у Маскву, дзе яго ўрачыста сустрэлі прадстаўнікі прэсы і літаратуры.

## *ЯК БЫВАЕ У ЖЫЦЬЦІ.*

### Сплю!

Кум Павал прыйшоў увечары да кума Пётры, які ўжо ляжаў у ложку, і кажа:

— Кумок, ці ўжо сьпіш?

Ну, што?

— Пазыч 5 залатовак!

— Сплю!!!

### Цьвёрдая натура.

Казённы дохтар: Але-ж на тваей галаве няма ніякага знаку ад udараў чыгунным гаршком, каторым, як кажыш, ты дастаў.

Пабіты: На галаве знакоў няма, гэта праўда. але паглядзі, панок, на той чыгунны гаршчок, — не пазнаеш, як ён пакалечаны. „Hosp. Obzor".

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *8.VI.37 за 100 клг.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . . | 23.50—24.50 |
| Пшаніца . . . . . . | 30.25—31.50 |
| Ячмень . . . . . . | 20.75—21.75 |
| Авёс . . . . . . . | 21.75—23.25 |
| Грачыха . . . . . . | 27.50—28.00 |

**Малочнае,** *.8VI.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | —2.50 |
| „ „ дэталь | —2.80 |
| Масла сталовае гурт . | —2.40 |
| „ „ дэталь | —2.70 |
| Масла соленае, гурт. | —2.40 |
| „ „ дэталь | —2.70 |
| Сыр эдамскі чырв., гурт. . | —2.10 |
| „ „ „ дэталь | —2.50 |
| „ „ жоўты, гурт | —1.75 |
| „ „ „ дэталь | —2.20 |
| Сыр літоўскі гурт . | —1.45 |
| „ „ дэталь | —1.70 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 3.20—3.90 |
| „ ў дэталю за штуку | 6—7 гр. |

„Самапомач" выходзіць 10 і 25 кожнага месяца.

ПАДПІСКА на „Самапомач": да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым перsucc" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС"